**НА ВІКТАРА СЫРЫЦУ ЗА МІЛАВІДСКІ ФЭСТ**



СКЛАЛІ ТРЭЦІ (!!!) АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ ПРАТАКОЛ

СТАР. 2

весніК ПРАВААБАРОНЧЫ

№ 7 (15) 07.2013

**СУД НЕ ЗАДАВОЛІЎ СКАРГУ ВЯЧАСЛАВА БОЛБАТА**

НА ЗАБАРОНУ МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ



СТАР. 3

БАРАНАВІЦКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

МАЮ ПРАВА

# АФІЦЫЙНАЯ ГАЗЕТА “НАШ КРАЙ” І РАЙВЫКАНКАМ ПРАЗ СУД АДКАЖУЦЬ ЗА ЗАПРАШЭННЕ НА МІЛАВІДСКІ ФЭСТ

## райвыканкам прыцягваецца як суадказнік

У судзе Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы 26 ліпеня адбыўся разгляд зыскавай заявы актывіста Руху “За свабоду” Віктара Сырыцы на дзеянні афіцыйнай газеты Баранавіцкага райвыканкама “Наш край”.

Разглядала гэтую грамадзянскую справу суддзя Вольга Апановіч, якая задаволіла хадайніцтва Віктара Сырыцы весці судавытворчасць на беларускай мове.



Нагадваем, што грамадскі актывіст Віктар Сырыца падаў на афіцыйную газету “Наш край” зыск у суд Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы ў сувязі з публікацыяй 30 траўня 2013 года аб'явы з запрашэннем на Мілавідскі фэст: “2 чэрвеня 12.30 ў вёсцы Мілавіды (каля гістарычных помнікаў Мілавідскай бітвы 1863 года) адбудзецца святочнае мерапрыемства, прысвечанае 150-м угодкам бітвы пад Мілавідамі”.

– Ведаючы пра гэтае афіцыйнае мерапрыемства, я замовіў аўтобус і арганізаваў 2 чэрвеня паездку аматараў гісторыі на анансаванае культурніцкае мерапрыемства. Мы прыехалі 2 чэрвеня ў 12.30 да Мілавідскіх помнікаў, але там нікога не было. Пачакаўшы 30 хвілін, мы ўсклалі кветкі і вянкі да помнікаў у гонар паўстанцаў 1863 года і заспявалі “Магутны Божа”. Сведкамі таго, што ўрачыстага свята ў гонар 150-х угодкаў Мілавідскай бітвы не было, сталі супрацоўнікі ДАІ, якія былі непадалёку ад помнікаў. Затым мы пакінулі Мілавідскае поле, склаўшы пры гэтым Акт ад 02.06.2013 года аб тым, што запланаванае мерапрыемства не адбылося, – адзначыў Віктар Сырыца.

Далей у зыскавай заяве паведамляецца, што 12 чэрвеня Віктар Сырыца быў выкліканы ў Баранавіцкі РАУС на падпісанне адміністрацыйнага пратакола, па якому ён абвінавачваўся ў парушэнні арт. 23.34 КаАП – арганізацыя і правядзенне 2 чэрвеня несанкцыянаванага масавага мерапрыемства ў памяць касінераў 1863 года.

З пратаколам Віктар Сырыца катэгарычна не пагадзіўся, таму і падаў зыскавую заяву на афіцыйную газету “Наш край” ў суд, бо лічыць сябе не арганізатарам несанкцыянаванай масавай акцыі, а толькі ўдзельнікам святочнага мерапрыемства, анансаванага афіцыйнай газетай Баранавіцкага райвыканкама “Наш край”.

У сваёй заяве ён просіць суд абавязаць рэдакцыю газеты “Наш край” папрасіць прабачэння ў сваіх чытачоў за падман грамадзянаў горада Баранавічы і Баранавіцкага раёна і спагнаць з газеты панесеныя страты, звязаныя з арэндай аўтобуса ў памеры 2 млн. 300 тыс. рублёў і вярнуць дзяржпошліну.

Адказнік, галоўны рэдактар газеты “Наш край” Міхаіл Шубіч, заяўляў, што газета не нясе адказнасць за змест аб'яваў і адхіляў усе патрабаванні.

У выніку судовых спрэчак вырашылі перанесці судовае пасяджэнне на 9 жніўня і прыцягнуць да гэтай грамадзянскай справы ў якасці суадказніка Баранавіцкі райвыканкам.

Вітусь Свабодскі

### Прадпрымальнікі страйкуюць, супрацоўнікі міліцыі спрабавалі затрымаць Мікалая Чарнавуса

Большая частка прадпрымальнікаў баранавіцкіх рынкаў 2 ліпеня не выйшла на працу, падтрымаўшы страйк, абвешчаны 1 ліпеня 2013 г.

Як паведаміў прадпрымальнік і грамадскі актывіст Мікалай Чарнавус, зачыненыя і не працуюць каля 500 ралетаў на Цэнтральным “Баранавіцкім каапрынку” (вул. Чарнышэўскага, 11) і такая ж колькасць на “Палескім кірмашы” (вул. Фралянкова, 46).

– Учора быў стыхійны сход каля гарадской падатковай інспекцыі і ўсе прагаласавалі, што не выйдуць працаваць 2 ліпеня. Але некаторыя не стрымаліся, адмовіліся ад удзелу ў страйку і сёння выйшлі на працу, – паведаміў Мікола Чарнавус.

Калі Мікалай Чарнавус 2 ліпеня зайшоў на Цэнтральны рынак і стаў размаўляць з тымі прадпрымальнікамі, якія сёння працуюць, то да яго адразу падбеглі некалькі міліцыянераў. Імі камандаваў вядомы сваім удзелам у разгоне апазіцыйных акцыяў маёр міліцыі Павел Кульгавік. Міліцыянеры ўзялі спадара Чарнавуса пад рукі і прапанавалі «прайсці з імі». Але, як распавёў Мікалай Чарнавус, адразу ж сабралася некалькі дзясяткаў прадпрымальнікаў, якія адбілі яго ў супрацоўнікаў міліцыі.

Пасля гэтага Мікалай Чарнавус сышоў з рынку.

spring96.org

## Суд другі раз вярнуў адміністрацыйны пратакол у міліцыю

Старшыня суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы Мікалай Кміта другі раз адправіў адміністрацыйны пратакол, складзены на арганізатара святочнага мерапрыемства ў гонар 150-х угодкаў Мілавідскай бітвы 1863 года грамадскага актывіста Віктара Сырыцу, назад у міліцыю для выпраўлення недахопаў. Гэта стала вядома з ліста, які ён атрымаў 6 ліпеня з гарадскога суда.

Раней мы паведамлялі, што ст. лейтэнант Баранавіцкага РАУС Дзяніс Майсеня склаў адміністрацыйны пратакол на Віктара Сырыцу, які абвінавачваўся ў здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага ч. 2 арт. 23.34 КаАП РБ – арганізацыя і правядзенне 2 чэрвеня несанкцыянаванага мерапрыемства ў памяць касінераў 1863 года.

– Гэта ўжо другі пратакол, які старшыня суда адпраўляе назад Баранавіцкай раённай міліцыі для выпраўлення памылак. Гэты пратакол склаў супрацоўнік міліцыі, які не быў і не бачыў таго, што адбывалася ля Мілавідскіх помнікаў 2 чэрвеня. Але ў судзе яшчэ разумеюць, што складзеныя пратаколы – гэта фактычна вайна варварства супраць беларускай гісторыі і культуры. Цяжка караць чалавека за любоў да сваёй гісторыі і культуры. Таму старшыня суда Мікалай Кміта прыняў разумнае рашэнне і зноў адправіў гэты няслаўны пратакол яго аўтарам для выпраўлення недахопаў, – адзначыў Віктар Сырыца.

spring96.org

# НА АРГАНІЗАТАРА МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ СКЛАЛІ ТРЭЦІ (!!!) АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ ПРАТАКОЛ

На арганізатара Мілавідскага фэсту ў гонар паўстанцаў 1863 года Віктара Сырыцу ст. лейтэнант Баранавіцкага РАУС Дзяніс Майсеня 17 ліпеня склаў трэці (!!!) адміністрацыйны пратакол. Грамадскі актывіст абвінавачваецца ў падрыхтоўцы і правядзенні несанкцыянаванага мерапрыемства.

Раней мы паведамлялі, што старшыня суда Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы Мікалай Кміта двойчы адпраўляў пратаколы, складзеныя на В. Сырыцу, назад у міліцыю для выпраўлення недахопаў.

– Гэта ўжо трэці пратакол, які сёння склалі на мяне ў Баранавіцкім РАУС. Спачатку мяне абвінавацілі ў здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага ч. 2 арт. 23.34 КаАП РБ – арганізацыя і правядзенне 2 чэрвеня несанкцыянаванага мерапрыемства. У другім пратаколе я абвінавачваўся яшчэ і ў тым, што парушыў арт. 12 Закона “Аб масавых мерапрыем-



ствах у РБ”, быццам бы я не спыніў падрыхтоўку і правёў масавае мерапрыемства 2 чэрвеня, якое было забаронена Баранавіцкім райвыканкамам, – паведаміў Віктар Сырыца.

У трэцім пратаколе ўжо не сцвярджаецца, што актывіст парушыў арт. 12 Закона “Аб масавых мерапрыемствах у РБ”, але ён абвінавачваецца ўжо ў парушэнні арт. 5 гэтага ж Закона – арганізацыя і правядзенне забароненага грамадска-масавага мерапрыемства.

– Мала таго што самі нічога не зрабілі, так яшчэ 3 і 20 мая райвыканкам двойчы незаконна забараніў правядзенне нашага фэсту ў гонар касінераў Кастуся Каліноўскага. Лічу, што не мы парушылі закон, а Баранавіцкі райвыканкам не выконвае арт. 51 Канстытуцыі Беларусі і не дае нам гарантаванага дзяржавай права на ўдзел у культурным жыцці, – паведаміў Віктар Сырыца.

Віктар Сырыца падпісаў трэці пратакол, але пазначыў, што прыехаў у Мілавіды 2 чэрвеня не праводзіць, а толькі ўдзельнічаць у афіцыйным мерапрыемстве.

spring96.org

# У БАРАНАВІЧАХ ПАДАДЗЕНА ЗАЯВА НА ПІКЕТ Ў ПАДТРЫМКУ БЯЛЯЦКАГА І ЎСІХ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

У пятніцу 19 ліпеня ў Баранавіцкі гарвыканкам пададзена заява на правядзенне 4 жніўня ў цэнтры горада (плошча Леніна, ля фантана) інфармацыйнага пікету ў падтрымку палітычна зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага, які ўжо 2 гады знаходзіцца ў турме.

Арганізатарамі мерапрыемства выступаюць праваабаронца Сяргей Гоўша і грамадскі актывіст Віктар Сырыца. Гэтае інфармацыйнае мерапрыемства запланавана з мэтаю звярнуць увагу грамадскасці на праблему палітычных вязняў у нашай краіне, якіх сёння налічваецца 12 чалавек.

– Сваім пікетам мы хочам падкрэсліць, што ў Беларусі людзей караюць за палітычныя погляды. А яшчэ мы хочам маральна падтрымаць не толькі Алеся Бяляцкага, але і ўсіх палітвязняў, якіх, як мы лічым, асудзілі незаконна, – заявіў праваабаронца Сяргей Гоўша.



Ён таксама адзначыў, што акцыя ў падтрымку Алеся Бяляцкага – агульнарэспубліканская і праводзіцца па ініцыятыве праваабаронцаў.

Папярэднія дзве заявы на пікеты ў падтрымку Алеся Бяляцкага ў 2012 годзе Баранавіцкі гарвыканкам не задаволіў.

spring96.org

# БАРАНАВІЦКІ СУД ПАДТРЫМАЎ РАЙВЫКАНКАМ У ЗАБАРОНЕ МІЛАВІДСКАГА ФЭСТУ

У пятніцу 5 ліпеня актывіст грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" Вячаслаў Болбат атрымаў судовую позву па грамадзянскай справе, разгляд якой павінен быў адбыцца 12 ліпеня. Вячаслаў Болбат, як адзін з арганізатараў Мілавідскага фэсту, падаў скаргу ў суд Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы на дзеянні райвыканкама, які, на думку грамадскага актывіста, двойчы 3 і 20 мая 2013 года незаконна забараніў адукацыйна-культурніцкае мерапрыемства "Мілавідскі фэст – памяці касінераў 1863 года".



– Мы дакладна выканалі ўсе патрабаванні Закона РБ ад 30.12.1997 № 114-З "Аб масавых мерапрыемствах" і рашэння Баранавіцкага гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 "Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы". Мы ўпэўнены ў сваёй праваце, таму будзем прасіць суд прызнаць незаконным рашэнне Баранавіцкага райвыканкама ад 20.05.2013 года аб забароне правядзення нашага мерапрыемства "Мілавідскі фэст – памяці касінераў 1863 года", – паведаміў Вячаслаў Болбат.

У панядзелак 15 ліпеня ў судзе адбылася працяг судовага пасяджэння.

Суддзя Вера Углік прызнала дзеянні Баранавіцкага райвыканкама законнымі ў справе забароны правядзення Мілавідскага фэсту і адмовіла ў задавальненні скаргі Вячаслава Болбата на дзеянні дзяржаўнага органа.

У судовых спрэчках Вячаслаў Болбат зноў адзначыў, што арганізатары культурніцкага свята выканалі ўсе патрабаванні заканадаўства, а райвыканкам зрабіў усё, каб адмяніць сваё запланаванае свята ля мілавідскіх помнікаў і забараніць яшчэ прадстаўнікам дэмакратычнай грамадскасці правесці культурніцкі фэст, прысвечаны 150-м угодкам паўстання 1863 года. Ён прасіў суд прызнаць незаконным рашэнне Баранавіцкага райвыканкама ад 20.05.2013г. аб забароне правядзення Мілавідскага фэсту 9 чэрвеня.

Намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Дзмітрый Варвашэня настойваў, што менавіта заяўнікі парушылі арт. 5 Закона "Аб аб масавых мерапрыемствах у РБ" і не заключылі новыя дамовы з раённай міліцыяй, паліклінікай і ЖКГ.

– Дзіўная рэч. Навошта заключаць новыя дамовы, калі мы накіравалі ў райвыканкам ліст не на новае мерапрыемства, а толькі прасілі перанесці дату запланаванага фэсту з 2-га на 9-га чэрвеня. Змест заявы і форма мерапрыемства не змяніліся. Новую заяву разглядала і падпісала тая ж дзяржаўная асоба, што і ранейшую. Мы цэлы месяц бегалі за раённымі чыноўнікамі, каб заключыць дамовы з міліцыяй, паліклінікай і ЖКГ. Яны мабыць хочуць, каб мы яшчэ месяц абівалі парогі дзяржаўных кабінетаў, каб замест стваральнай працы павязлі ў гэтай бюракратычнай цяганіне, – паведаміў Вячаслаў Болбат.

Сяргей Законнікаў

## МЕСТЬ ЗА ПРОТЕСТЫ

На Николая Черноуса составили два протокола за митинги предпринимателей.

На барановичского предпринимателя и общественного активиста Николая Черноуса составили два протокола административного правонарушения, пишет ПЦ «Вясна».

Их вручил на рабочем месте Николаю Черноусу майор милиции Дмитрий Мизгер. Черноуса обвиняют в нарушении ч.3 ст.23.34 (организация и проведение несанкционированного массового мероприятия) во время митингов барановичских предпринимателей 27 июня и 1 июля. Первый митинг проходил на Кооперативном рынке, второй - у здания налоговой инспекции. Николай держал в руках плакаты: «Мы хотим работать» и «Нам не нужен такой Таможенный союз».

Напомним, что на прошлой неделе Черноуса вызвали в Барановичский ГОВД. Там он вынужден был написать объяснительную. Ему сказали, что вызовут повторно. Но после того, как поговорили там с директором коопрынка и начальником налоговой, необходимость в повторном вызове отпала – соответственно были составлены два протокола.

charter97.org

## Ліст не дайшоў, бо адпраўлены ў пракуратуру

Як паведаміла жонка палітыка, Марына Адамовіч, праблемы з ліставаннем узнікалі шмат разоў і раней. Але тады лісты Мікалая Статкевіча проста «не праходзілі цэнзуру», а лісты ад яго адрасатаў «знікалі» ці, у выпадку, калі ліст быў «замоўлены», палітвязень атрымліваў толькі пусты канверт.

- Апошні з атрыманых лістоў мяне здзівіў, - расказала Марына. - У ім Мікалай паведаміў, што яго папярэдні ліст быў не проста канфіскаваны, а накіраваны ў абласную пракуратуру разам з яго паказаннямі аб сітуацыі ў Шклоўскай калоніі, пра якую ён напісаў у гэтым лісце.

- Цікава, што б гэта значыла? Ці то адміністрацыя турмы баіцца, каб інфармацыя пра тое, што адбываецца ва ўстановах пенітэнцыярнай сістэмы, выйшла на волю? Ці то, наадварот, вырашылі праявіць пільнасць і «прасігналізаваць» аб выяўленых парушэннях? То можна было копію ліста скарыстаць. Таму схіляюся да першага, - сказала Марына Адамовіч.

Жанчына не ведае аб змесце ліста, але кажа, што нецяжка здагадацца, што расказаць Мікалаю Статкевічу было пра што.

- Я вельмі добра памятаю, што там адбывалася акурат два гады таму, калі пасля прыезду Лукашэнкі ў Шклоў і яго знакамітай прапановы «палітычным» «папрасіцца», там пачаўся страшэнны ціск на іх. Таму, думаю, напісаць Міколу было пра што. Спадзяюся, што ўтаіць гэта ўжо немагчыма, нават, калі будзе сканфіскаваны яшчэ дзясятак лістоў.

Нагадаем, што начальнік калоніі №17 палкоўнік Ермаліцкі, ягоны намеснік Ягулеўскі і яшчэ два супрацоўнікі, якія непасрэдна вінаватыя ў катаваннях «палітычных», амаль два гады таму былі ўнесеныя ў спіс неўязных у Еўрапейскі Саюз.

spring96.org

## Праваабарончы цэнтр «Вясна» прэзентуе “Праваабарончы каляндар”




Новае выданне Праваабарончага цэнтра “Вясна”, разлічанае на шырокае кола чытачоў, з сённяшняга дня даступнае ў электронным варыянце на нашым сайце.

“Праваабарончы каляндар” – гэта спроба сабраць даты, звязаныя са станаўленнем, развіццём і абаронай правоў чалавека. У кнігу ўвайшлі знакавыя сусветныя і міжнародныя дні, афіцыйна абвешчаныя Арганізацыяй Аб’яднаных Нацый, міжнародныя дні, якія прызнаюцца няўрадавымі арганізацыямі розных краінаў, а таксама даты беларускіх падзеяў, важных з пункту гледжання правоў чалавека, дні нараджэння і дні памяці выбітных актывістаў праваабарончага руху.

Укладальнікі выдання спадзяюцца, што “Праваабарончы каляндар” будзе карысным у працы журналістаў, праваабарончых арганізацыяў, у галіне адукацыйнай дзейнасці.

spring96.org

## 25 некамэрцыйных арганізацыяў прапанавалі правесьці парлямэнцкія слуханьні па пытаньні ўдасканаленьня заканадаўства аб НКА

У аўторак 16 ліпеня ў парлямэнт і ўрад Беларусі быў накіраваны калектыўны зварот 25-ці некамэрцыйных арганізацыяў з прапановай правесьці парлямэнцкія слуханьні па пытаньні ўдасканаленьня заканадаўства аб некамэрцыйных арганізацыях.

Нагодай для зварота стала прыняцьце Палатай прадстаўнікоў у першым чытаньні законапраекта “Аб унясеньні дапаўненьняў і зьменаў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаньнях дзейнасьці палітычных партыяў і іншых грамадзкіх аб’яднаньняў”. Як адзначаецца ў звароце, гэты праект утрымлівае ў сабе пэўныя станоўчыя зьмены, але ён не вырашае самых істотных  прававых праблемаў, зь якімі сутыкаюцца арганізацыі грамадзянскай супольнасьці. У прыватнасьці, не была рэалізаваная першапачатковая прапанова суб’екта заканадаўчай ініцыятывы пра ўрэгуляваньне статусу аддзяленьняў міжнародных грамадзкіх аб’яднаньняў, захаваліся павышаныя патрабаваньні для колькасьці заснавальнікаў для рэспубліканскіх грамадзкіх аб’яднаньняў у параўнаньні з мясцовымі арганізацыямі.



“Практыка стварэньня і дзейнасьці грамадзкіх аб’яднаньняў у Беларусі мае шэраг іншых рознаскіраваных аспэктаў, у якіх сасьпела патрэба ўдасканаленьня заканадаўства. Сярод іх такія важныя тэмы, як забарона на дзейнасьць незарэгістраваных аб’яднаньняў і крымінальная адказнасьць за такую дзейнасьць, неурэгуляванасьць у заканадаўстве дабрачыннай дзейнасьці, прыраўноўваньне любых ананімных ахвяраваньняў да замежнай бязвыплатнай дапамогі са складаным парадкам яе рэгістрацыі і выкарыстаньня, неабходнасьць прававога ўрэгуляваньня валянтэрскай добраахвотнай працы ды іншыя” – адзначаецца ў звароце.

У якасьці сродка паляпшэньня прававога клімата для дзейнасьці грамадзянскай супольнасьці аўтары зварота прапануюць напярэдадні другога чытаньня законапраекта правесьці парлямэнцкія слуханьні па тэме: “Удасканаленьне прававых умоваў для стварэньня і дзейнасьці грамадзкіх аб’яднаньняў і іншых некамэрцыйных арганізацыяў”. Гэткая форма парлямэнцкай працы не выкарыстоўвалася беларускім парлямэнтам з лістапада 2010 году, калі адбыліся парлямэнцкія слуханьні па стратэгіі інавацыйнага разьвіцьця. Мэханізм парлямэнцкіх слуханьняў дазваляе ўлічыць меркаваньні шырокага кола дзяржаўных і недзяржаўных экспэртаў і зацікаўленых групаў. Гэта будзе карысна ня толькі дзеля падрыхтоўкі згаданага законапраекта да другога чытання, але і для абмеркаваньня інтарэсаў грамадзкіх аб’яднаньняў адносна зьменаў і дапаўненьняў у іншыя заканадаўчыя акты.

Са свайго боку НКА, якія падпісалі зварот, дэкляравалі гатоўнасьць зрабіць свой унёсак у распрацоўку праграмы такіх слуханьняў, у тым ліку зрабіць паведамленьні па канкрэтных аспэктах удасканаленьня заканадаўства аб грамадзкіх аб’яднаньнях.

Важнасьць уліку меркаваньняў грамадзкасьці пры рэфармаваньні заканадаўства пра грамадзкія аб’яднаньні павялічваецца ў сьвятле рэкамэндацыяў, атрыманых Рэспублікай Беларусь па выніках Унівэрсальнага пэрыядычнага агляду ААН па правах чалавека ў 2010 годзе. Менавіта ўдасканаленьне заканадаўства і практыкі ў гэтай галіне стала прадметам рэкамэндацыяў, выказаных на адрас Беларусі ў межах гэтай працэдуры ААН  з боку Бельгіі, Балівіі, Канады, Чэхіі, Францыі, Інданэзіі, Ірляндыі, Ізраіля, Літвы, Нідэрляндаў, Польшчы, Гішпаніі, Швэйцарыі.

Калектыўны зварот аб правядзеньні парлямэнцкіх слуханьняў быў ініцыяваны Цэнтрам прававой трансфармацыі і Асамблеяй няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў. Зварот падпісалі 25 грамадзкіх аб’яднаньняў і іншых некамэрцыйных аб’яднаньняў, у тым ліку Беларускі Хельсінкскі камітэт, Беларускае таварыства інвалідаў, Беларускі ПЭН-цэнтар, дабрачынны фонд “Вяртаньне”, Цэнтар “Супольнасьць”, Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Фонд імя Льва Сапегі, Беларуская арганізацыя працоўных жанчынаў ды іншыя аўтарытэтныя арганізацыі грамадзянскай супольнасьці.

spring96.org

**“ПРАВААБАРОНЧЫ ВЕСНІК”** Баранавіцкі інфармацыйны праваабарончы бюлетэнь

**Калі парушаны вашыя правы, маеце пытанні, заўвагі ці прапановы - звяртайцеся.**
Дапамога бясплатная. Нашы кантакты: тэл. 8 029 7220957, e-mail: viasna_bar@tut.by

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў

ВЕСНІК ПРАВААБАРОНЧЫ